# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№ 8 (183)
жнівень 2017

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:

### Сяргей Кандыбовіч: "Быць актывістам у суполцы не тое самае, што несці адказнасць за цэлую арганізацыю"

Гутарка з старшынём Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў Расіі (ФНКА).

Працяг на старонцы 3.

### "Тамаш Грыб. Выбранае"

Рэвалюцыянер, рэдактар, міністр унутраных спраў, аўтар устаўных грамат БНР, заснавальнік партыі беларускіх эсэраў, эмігрант, палітвязень, доктар філасофіі, літаратурны крытык. Ягоны аднатомны збор твораў стаў першым выпускам новай кніжнай серыі "Спадчына: агледзіны" "ЗБС "Бацькаўшчына".

Працяг на старонцы 6–7.

### "Стары Ольса": НОВЫ АЛЬБОМ І ГАСТРОЛІ Ў ЗША

Трэці амерыканскі гастрольны тур гурта будзе доўжыцца да 23 кастрычніка:

Працяг на старонцы 7.

**Сайт ЗБС "Бацькаўшчына" zbsb.org змяніў дызайн!**

**Чытайце, пішыце, каментуйце!**



# ВЫНІКОВЫЯ ДАКУМЕНТЫ СЁМАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Шаноўнае спадарства, з фінальнай рэдакцыяй выніковых дакументаў Сёмага з'езда беларусаў свету МГА "ЗБС Бацькаўшчына" вы можаце азнаёміцца на сайце арганізацыі zbsb.org.

**Выніковая рэзалюцыя** Сёмага з'езда беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" (поўны тэкст падаецца на старонцы 2).

**Рэзалюцыя "Справа захавання і ўмацавання незалежнасці Беларусі – справа ўсіх беларусаў"** утрымлівае канстатацыю таго факта, што сучасная беларуская дзяржаўнасць – заканамерны вынік гістарычных нацыя- і дзяржаватворчых працэсаў – гарантуе ўстойлівае развіццё беларускага народа і таму заклікае беларускія ўлады аддаць належную ўвагу пытанням нацыянальнай ідэнтычнасці ў адукацыйнай, культурнай і сацыяльнай палітыцы.

**Рэзалюцыя "Беларуская мова – аснова беларускай нацыі і падмурак дзяржаўнасці Беларусі"** заклікае кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь да прыняцця дзяржаўнай праграмы па пашырэнні ўжытку беларускай мовы і забеспячэнні фактычнай роўнасці выкарыстання беларускай і рускай моў. Рэзалюцыя таксама ўтрымлівае зварот да беларускай грамадскасці з заклікам абараняць канстытуцыйны статус беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

**Прапановы да дзяржаўнай стратэгіі "Беларусь – дыяспара"** ўтрымліваюць канцэпцыю развіцця супрацоўніцтва з беларусамі, якія пражываюць за мяжой (больш за 3,5 млн) у рамках прынятага Закона Рэспублікі Беларусь №162-З "Аб беларусах замежжа" і падпраграмы "Беларусы ў свеце" дзяржаўнай праграмы "Культура Беларусі" на 2016–2020 гады.

**Зварот Сёмага з'езда беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"** да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, да Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, да Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь заклікае пералічаныя дзяржаўныя органы забяспечыць неабходныя прававыя, арганізацыйныя, фінансавыя і іншыя ўмовы для развіцця стратэгічнага супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь і беларусаў замежжа – усяго дванаццаць пунктаў, – а таксама інфармуе пра гатоўнасць МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" да актыўнага ўдзелу ў іх рэалізацыі на грамадскіх пачатках.

Таксама дэлегаты Сёмага з'езда беларусаў свету прынялі **зварот да кіраўніка гарадской акругі г. Калінінграда "Аб наданні імя Францішка Скарыны вуліцы ў г. Калінінградзе", звароты да мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча і ўладаў сталіцы аб пахаванні парэшткаў княгіні Магдалены Радзівіл у Чырвоным касцёле ў Мінску** і даслалі **вітанне дэлегатам Шостага з'езда Сусветнага Кангрэса татараў**.

ЗБС "Бацькаўшчына" накіравала прынятыя рэзалюцыі ў зацікаўленыя ў пашырэнні супрацоўніцтва з беларусамі замежжа дзяржаўныя ўстановы: у Адміністрацыю прэзідэнта, Міністэрства замежных спраў, Міністэрства культуры і інш. Звароты і вітанні, прынятыя дэлегатамі З'езда, напачатку жніўня накіраваныя адпаведным адрасатам (мітрапаліту Кандрусевічу, у Мінгарвыканкам, Міністэрства культуры, Міністэрства замежных спраў, Адміністрацыю Прэзідэнта і інш.).

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# ВЫНІКОВАЯ РЭЗАЛЮЦЫЯ СЁМАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## "Беларуская нацыя, беларуская дзяржаўнасць, беларускае замежжа – выклікі сучаснасці і стратэгія развіцця"

*15–16 ліпеня 2017 г., г. Мінск*

Мы, дэлегаты Сёмага з'езда беларусаў свету, незалежна ад месца пражывання, веравызнання і палітычных поглядаў, падводзячы вынікі абмеркавання новых выклікаў, якія паўсталі перад беларускай нацыяй, заяўляем:

• У сучасных умовах Беларусь сутыкнулася з новымі геапалітычнымі выклікамі, супрацьстаяць якім можна толькі прызнаючы незалежнасць, нацыянальную культуру і беларускую мову асноўнымі дзяржаваўтваральнымі фактарамі.

• У эпоху імклівай глабалізацыі нацыянальныя мовы маюць патрэбу ў пастаяннай падтрымцы з боку дзяржавы і грамадства. Беларуская мова, вынесеная на ўзбочыну ў адукацыйнай, справаводчай, інфармацыйнай сферах, дагэтуль не мае паўнавартаснага дзяржаўнага статусу, што ставіць пад пагрозу існаванне ўнікальнай беларускай культуры, супрацьдзейнічае захаванню нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў замежжа. Выказваем глыбокую занепакоенасць наяўнай сітуацыяй і прапануем распрацаваць пакрокавую стратэгію падтрымкі беларускай мовы для вяртання яе ў шырокі ўжытак у сацыяльнай, адукацыйнай, эканамічнай, дыпламатычнай і іншых сферах. Звяртаем увагу на недастатковую прадстаўленасць спадчыны беларусаў замежжа ў навуковых і адукацыйных праграмах, што вельмі негатыўна адбіваецца на фармаванні цэльнасці нацыі, якасці стасункаў дзяржавы і дыяспары.

• Сталае супрацоўніцтва з дыяспарай неабходнае для культурнага, сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі. Трывалыя сувязі з беларусамі замежжа розных прафесій – прадстаўнікамі бізнесу, навукоўцамі, прафесурай, палітыкамі, грамадскімі і культурнымі дзеячамі, супрацоўнікамі недзяржаўных арганізацый – дазволяць прыцягваць замежны досвед у сацыяльную, адукацыйную і культурную сферы, павялічаць прыток замежных інвестыцый у нацыянальную эканоміку, станоўча паўплываюць на ўкараненне інавацыйных тэхналогій і павышэнне інтэлектуальнага патэнцыялу Беларусі, а таксама забяспечаць уключанасць выхадцаў з Беларусі ў агульнанацыянальную прастору.

• Пасля прыняцця заканадаўства аб беларусах замежжа стала відавочнай неабходнасць распрацоўкі канкрэтных захадаў да паляпшэння ўзаемадзеяння паміж Беларуссю і дыяспарай, найперш – Канцэпцыі супрацоўніцтва дзяржавы і беларусаў замежжа, стварэння дзяржаўных інстытуцый і ведамстваў для сістэмнай працы з дыяспарай.

• Мы выступаем за дэмакратычныя свабодныя выбары і адмову ад пераследу па палітычных матывах.

Заклікаем беларускія ўлады ўлічыць усё вышэйсказанае пры распрацоўцы дзяржаўнай Стратэгіі нацыянальнага развіцця і ўмацавання незалежнасці ў варунках зменены геапалітычных выклікаў.

# 100 гадоў БНР: "БАЦЬКАЎШЧЫНА" ЗВЯРНУЛАСЯ ДА ЎЛАДАЎ З ІНІЦЫЯТЫВАЙ ПА ЎСТАЛЁЎЦЫ ПАМЯТНАГА ЗНАКА БРАТАМ ЛУЦКЕВІЧАМ

У наступным годзе, споўніцца 100 гадоў абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі – падзеі, якая запачаткавала афармленне беларускай дзяржаўнасці, лагічным вынікам якой стала абвяшчэнне ў 1991 годзе незалежнай Рэспублікі Беларусь.

З ініцыятывы і разам з унучатай пляменніцай Луцкевічаў, беларускай Санкт-Пецярбурга, музеязнаўцы Маргарыты Пяровай, ЗБС "Бацькаўшчына" ў ліпені звярнулася ў Міністэрства замежных спраў, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, а таксама ў Мінгарвыканкам з прапановай ушанаваць гэтую гістарычную падзею, усталяваўшы ў Мінску памятны знак (шыльду на камяні) на месцы былой сядзібы Івана і Антона Луцкевічаў.

Прадпрыемства "Мінскпраект" пацвердзіла згоду выканаць гэтыя працы адначасова з добраўпарадкаваннем прылеглай тэрыторыі ў ходзе рэканструкцыя парка імя Янкі Купалы (менавіта на яго тэрыторыі сядзіба месцілася раней), якая па стане на сёння яшчэ не завершаная.

Верагодна, праз недахоп інфармацыі ці праз нейкае непаразуменне ў 2014 годзе ў адказ на падобны зварот спадарыні Маргарыты Пяровай Міністэрства культуры выказалася, што лічыць прапанову неабгрунтаванай. Гэтым жа разам Мінкульт пацвердзіў гатоўнасць вярнуцца да ўзгаднення пытання стварэння памятнага знака пасля афармлення прапановаў з улікам патрабаванняў "Палажэння аб парадку стварэння (рэканструкцыі) і прыёмкі твораў манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва" (сярод іншага, патрабуецца стварыць і ў адпаведнай форме зацвердзіць эскіз помніка).

Дзяржаўны літаратурны музей імя Янкі Купалы падтрымлівае ініцыятыву ўсталявання памятнага знака на месцы былой сядзібы Луцкевічаў. Яны падзяляюць думку ініцыятараў праекту, што такі знак павялічыць гісторыка-культурны патэнцыял парка імя Янкі Купалы. Тым больш што на аснове гістарычных дакументаў, у тым ліку з сямейнага архіву Луцкевічаў, супрацоўнікамі музея распрацаваны экскурсійны маршрут "Таямніцы Купалавага парку".

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

# "БАЦЬКАЎШЧЫНА" ЗВЯРТАЕЦЦА ДА ВЫСТУПОЎЦАЎ СЁМАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Тыя дэлегаты і госці З'езда, якія маюць пісьмовыя варыянты сваіх выступаў, могуць дасылаць іх на адрас zbsb.minsk@gmail.com – мы з радасцю размесцім тэксты на нашым абноўленым сайце.

**Інфармацыйны аддзел МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**



# НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА ВЯРТАЕЦЦА Ў БЕЛАРУСЬ

Саюз беларускіх пісьменнікаў, Беларускі ПЭН-цэнтр і Згуртаванне "Бацькаўшчына" абвяшчаюць пра заснаванне літаратурнай прэміі за найлепшую кнігу паэзіі імя Наталлі Арсенневай – выбітнай беларускай паэткі, зоркі літаратуры Заходняй Беларусі, аўтаркі знакавага верша "Магутны Божа". Пасля вайны Арсеннева апынулася ў эміграцыі, дзе працягвала займацца беларускай справай, удзельнічала ў культурнай і асветніцкай дзейнасці.

Першая прэмія будзе ўручаная ўжо сёлета за кнігу паэзіі, напісаную на беларускай мове і выдадзеную ў 2016 г. Пераможцу вызначыць журы, у склад якога ўваходзіць Ірына Багдановіч, Лявон Баршчэўскі, Уладзімір Глазаў, Вальжына Морт, Ціхан Чарнякевіч.

Літаратурная прэмія імя Наталлі Арсенневай заснаваная пры спрыянні Фонда культуры і адукацыі Орса-Рамана і Харытатыўнага фонда Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі.

Правам намінавання на Прэмію валодаюць выдаўцы, творчыя аб'яднанні, аргкамітэт Прэміі, сябры журы і самі аўтары. На іх ляжыць абавязак прадставіць да 1 кастрычніка на разгляд журы Прэміі электронныя pdf-версіі выданняў і, калі кніга выдавалася ў папяровым выглядзе, два папяровыя асобнікі кніг. Папяровыя асобнікі прымаюцца па адрасе Саюза беларускіх пісьменнікаў (220012, Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906), электронныя варыянты – на адрас: paezija@gmail.com

Сачыць за абнаўленнямі можна на старонцы Прэміі ў фэйсбуку і на сайтах арганізатараў.

**Аргкамітэт прэміі**

гутарка

# Старшыня ФНКА беларусаў Расіі: БЫЦЬ АКТЫВІСТАМ У СУПОЛЦЫ НЕ ТОЕ САМАЕ, ШТО НЕСЦІ АДКАЗНАСЦЬ ЗА ЦЭЛУЮ АРГАНІЗАЦЫЮ

ЗБС "Бацькаўшчына" працягвае серыю інтэрв'ю з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый замежжа. Гэтым разам на сядзібу Згуртавання завітаў старшыня Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў Расіі (ФНКА) Сяргей Кандыбовіч – доктар навук, прафесар, вядомы навуковец у галіне псіхалогіі і вайсковай справы. Мы пагутарылі з ім пра дзейнасць гэтай буйной арганізацыі, а таксама паспрабавалі разабрацца з яе складанай структурай.

**– Вы ж у Мінску бываеце часта, праўда?**

– Так. Сёлета ўжо ў сёмы раз.

**– А па якіх справах, калі не сакрэт?**

– Гэта мая Радзіма, бываць на ёй – вялікае шчасце. Усе мае сваякі жывуць тут. З Беларусі я ад'ехаў у 1989 годзе, праз службу ва ўзброеных сілах...

**– Чаму, зрабіўшы столькі працы для расійскага войска, Вы ўсё ж вырашылі заняцца беларускай справай?**

– У 1999-м я даведаўся пра арганізацыю беларусаў, якую тады ўзначальваў Мікалай Шляга. Ён стаў запрашаць мяне на мерапрыемствы, прапанаваў мне ўвайсці ў склад Рады. Я зацікавіўся дзейнасцю, пазнаёміўся з Раманам Чырвонцавым, Алай Тужылкінай, Тамарай Яшынай, якія стаялі ля яе вытокаў. Калі Мікалай Шляга пайшоў з жыцця, кіраўніком нейкі час быў Аляксей Кавалевіч, і ён разам з Францішкам Каўрыгам зрабілі мне прапанову ўзначаліць Маскоўскую нацыянальна-культурную арганізацыю. Але быць актывістам у суполцы не тое самае, што несці адказнасць за цэлую арганізацыю, і я адмовіўся. Але з той самай прапановай да мяне сталі звяртацца іншыя сябры Рады, я вырашыў паспрабаваць і ўзначальваў Маскоўскую нацыянальна-культурную аўтаномію (НКА) восем гадоў. У 2015 годзе на з'ездзе ФНКА дэлегаты абралі мяне старшынёй аўтаноміі беларусаў Расіі.

**– Беларуская дыяспара ў Расіі адметная складана арганізаванай структурай. У ФНКА ўваходзяць беларускія НКА з розных куткоў Расіі, а яны, у сваю чаргу, стасуюцца яшчэ з многімі суполкамі, культурнымі аб'яднаннямі...**

– Так. Існуе безліч арганізацый, якія не адпавядаюць фармату НКА, як таго патрабуе федэральны закон РФ.

**– А што трэба зрабіць, каб адпавядаць?**

– Падрыхтаваць і зацвердзіць статут, а пасля зарэгістраваць арганізацыю ў органах юстыцыі. Зрабіць гэта складана. Сёння ў рэгіёнах Расіі трыццаць тры беларускія НКА. А арганізацый, з якімі працуе ФНКА, – шэсцьдзесят шэсць.

**– А статус НКА дае нейкія выгоды ў параўнанні са статусам простай суполкі?**

– У кожным рэгіёне Расійскай Федэрацыі свой фармат стасункаў суполак з мясцовымі ўладамі. Дзесьці нават адмысловыя міністры ёсць... Сябрам ФНКА, асабліва пасля таго, як мяне ўвялі ў склад Савета пры Прэзідэнце Расійскай Федэрацыі па міжнацыянальных адносінах, вырашаць нейкія пытанні стала значна прасцей.

**– Кіраўнікі ФНКА аўтаматычна ўваходзяць у гэты Савет?**

– Не, толькі згодна з указам прэзідэнта. Прэферэнцый, грошай і да т.п. гэты статус не прадугледжвае, затое тэзісы, агучаныя на кожным паседжанні,



адразу пераўтвараюцца ў распараджэнні прэзідэнта.

**– ФНКА, наколькі я разумею, узаемадзейнічае з амбасадай Беларусі ў Расіі і з беларускім Міністэрствам замежных спраў (МЗС). Ці не ўзнікалі нейкія праблемы праз тое, што з афіцыйнага расійскага пункту гледжання Крым ёсць тэрыторыяй Расійскай Федэрацыі, а з пункту гледжання беларускага – не?**

– Праблема вельмі актуальная. Мушу прызнаць, што многія справы, якія маглі б рабіцца, праз згаданыя абставіны ў Крыме не робяцца. Але паколькі мы грамадская арганізацыя, дык пэўныя тэмы, якія на больш высокім узроўні маюць "замарожаны" статус, можам не ўздымаць. Ёсць Канстытуцыя Расійскай Федэрацыі, і для мяне як грамадзяніна Расіі няма пытання па Крыме. Ягоны статус для мяне відавочны – гэта расійская тэрыторыя, і там жывуць грамадзяне Расіі, блізу 30 000 з якіх называюць сябе беларусамі.

**– Распавядзіце, калі ласка, пра самыя важныя праекты ФНКА беларусаў Расіі.**

– У ФНКА добрыя стасункі з Дэпартаментам адукацыі ураду Масквы – выступаем у гімназіях, правялі двухдзённую канферэнцыю на Вераб'ёвых гарах... Сканчаем працу над падрыхтоўкай кнігі да 100-годдзя Пятра Машэрава. Актыўна падтрымліваем праекты Рускай Праваслаўнай царквы (РПЦ), – сярод нашых актывістаў уладыка Дзімітрый, архіепіскап Віцебскі і Аршанскі, намеснік старшыні Рады беларусаў Расіі. У межах праекта "Беларускі мір ад Уладзівастока да Беластока" даследуем кампактнае пражыванне беларусаў – нам вельмі дапамагае ў гэтай справе Алег Рудакоў з Іркуцка, намеснік старшыні Рады беларусаў Расіі па беларусістыцы. Актыўна падтрымліваем будоўлю Сафійскага сабора ў Віцебску. Стварылі фільм пра арганізатара першай падпольнай арганізацыі падчас вайны ў Гародні, пра Пятра Машэрава зрабілі фільм. Калі ў Беларусі абмяркоўвалі закон "Аб беларусах замежжа", да нас звярнуліся з Міністэрства замежных спраў. Мы сфармулявалі дванаццаць заўваг, і ўсе яны былі ўлічаныя.

**– А беларуская дзяржава вам дапамагае? Праз амбасаду, праз МЗС?**

– На тэрыторыі амбасады Рэспублікі Беларусь адкрыўся Дзелавы і культурны комплекс, у цэнтры Масквы, з залай на 320 месцаў. МЗС, Міністэрства інфармацыі, Міністэрства культуры Беларусі нас падтрымліваюць інфармацыйна.

**– Ці не думалі адкрыць беларускую школу ў Маскве?**

– Аб гэтым яшчэ ў 1990 годзе пачаў рупіцца Раман Чырвонцаў. Дамовіліся распачаць заняткі нядзельнай школкі для васямнаццаці груп розных нацыянальнасцяў. Беларускую школку тры гады таленавіта вяла Ганна Багуліна-Рыжкоўская. Там часам Юры Лужкоў даў зялёнае святло на адкрыццё ў Маскве нацыянальных школ, нават падборам беларускамоўнага спецкалектыву пачалі займацца. Але ў Маскве няма кампактнага рассялення беларусаў, і вазіць дзяцей з усяе Масквы ў адну беларускую школу бацькі не мелі магчымасці. Больш практычным аказалася стварэнне нацыянальных факультатываў: адно з класных памяшканняў афармляецца ў беларускім стылі, даецца інфармацыя пра беларускі этнас, Рэспубліку Беларусь, беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, гучаць аўдыёзапісы, народныя і сучасныя беларускія песні...

**– Выходзіць, што беларуская дыяспара ў Расіі буйная, але моўна асіміляваная...**

– Скажу пра сябе. Я нарадзіўся, скончыў школу і інстытут у Мінску, чытаю і магу добра гаварыць па-беларуску. Але лічу, што калі ўжо пераходзіць на мову, то трэба, каб гэта была не трасянка, і рабіць гэта варта ў адпаведным моўным асяродку. Ніякіх праблем у стасунках з беларускамоўнымі праз тое, што я размаўляю з імі па-руску, у мяне ніколі не было. Пры гэтым мне вельмі прыемна ўсведамляць, што акрамя Расіі практычна ўсе беларусы замежжа беларускамоўныя.

**– На развітанне скажыце, калі ласка, колькі словаў пра тое, якой Вам бачыцца арганізацыя ЗБС "Бацькаўшчына". Ці можаце даць парады па арганізацыі, пакрытыкаваць?**

– Нізкую інтэнсіўнасць супрацы ФНКА беларусаў Расіі з ЗБС "Бацькаўшчына" я лічу сваёй недапрацоўкай. Вы як міжнародная арганізацыя знаходзіцеся на вельмі адказным участку. Відавочныя вялікія аб'ёмы і высокі прафесійны ўзровень вашай працы. Кідаецца ў вочы высокая загружанасць кіраўніцтва – Алены Макоўскай і Ніны Шыдлоўскай. Чалавек, не зацікаўлены шчыра гэтай справай, папросту не зможа яе рабіць. Магу і пакрытыкаваць. Вашая арганізацыя заўсёды вылучалася нейтральным падыходам да любой праблемы, але асабіста мне здаецца, што вы часам робіце "заступы" ў палітычную сферу ў сітуацыях, калі можна было б устрымацца. Напрыклад, даволі вострага зварот з нагоды падзеяў 25 сакавіка, абвесткі пра збор грашовай дапамогі затрыманым. Мне здаецца, што завастрэнне ўвагі на падобных рэчах можа быць для арганізацыі шкодным і нават небяспечным. Напрыклад, прэтэнзіі могуць прад'явіць дзяржаўныя ўлады. У Расійскай Федэрацыі такім чынам скасавалі федэральную ўкраінскую арганізацыю, скасавалі азербайджанскую. І я лічу, што калі дзяржава лічыць, што хтосьці парушае заканадаўства, ствараючы небяспеку для дзяржаўнага ладу, то мае права адрэагаваць. Таксама мне здаецца, што "Бацькаўшчына" магла б больш увагі надаваць патрыятычнаму асвятленню тэмы Вялікай Айчыннай вайны. Але, паўтаруся, я ў захапленні ад вашай мужнасці, ад нязменнай адданасці вашай высокай місіі.

Гутарыў Сяргей Кандраценка, прэс-сакратар МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Друкуецца ў скароце, цалкам чытайце на сайце zbsb.org

Публікацыя зроблена ў межах ініцыятывы "Грамадскі ўзел", якая аб'ядноўвае розныя арганізацыі дзеля пашырэння грамадскай актыўнасці і развіцця грамадзянскай супольнасці.

гутарка

# Андрэй Казакевіч: КАНГРЭС ДАСЛЕДЧЫКАЎ БЕЛАРУСІ АБ'ЯДНАЕ РЭВАЛЮЦЫЮ 1917 ГОДА І БІБЛІЮ СКАРЫНЫ

Будуць закранацца і актуальныя тэмы, у прыватнасці, пытанні бяспекі ў рэгіёне, асабліва ў кантэксце вучэнняў "Захад-2017".

15–17 верасня 2017 года ў Варшаве пройдзе Сёмы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі. Раней галоўная беларуская акадэмічная падзея года праходзіла напачатку кастрычніка ў літоўскім Коўне. Пра арганізацыйныя змены і актуальныя тэмы ды адметнасці сёлетняга Кангрэсу Службе інфармацыі "ЕўраБеларусі" распавёў дырэктар Інстытута "Палітычная сфера", які выступае арганізатарам форуму, Андрэй Казакевіч.

– Змена месца звязана з жаданнем Арганізацыйнага камітэта надаць Кангрэсу новую дынаміку, уключыць у працу новых людзей, выйсці на новую аўдыторыю. Верагодна, месца правядзення будзе мяняцца кожны год. Сёлета выбар паў на Варшаву, бо менавіта ў гэтым горадзе мы маем вялікую колькасць зацікаўленых акадэмічных асяродкаў. У Польшчы ў прынцыпе вельмі актыўна займаюцца даследаваннем Беларусі, існуе шырокая супольнасць людзей, якія цікавяцца беларускай гісторыяй, культурай, мовай, палітыкай, грамадствам.

Змена часу правядзення Кангрэса выцякала са змены месца: у Польшчы навучальны год пачынаецца 1 кастрычніка, таму ў сярэдзіне верасня зручней правесці такую вялікую навуковую канферэнцыю і выкарыстоўваць інфраструктуру ўніверсітэтаў.

**– Адсюль вынікае, што сёлета ў Кангрэсе возьмуць удзел больш польскіх даследчыкаў?**

– Так, мы чакаем значна большую колькасць польскіх даследчыкаў. Хаця варта адзначыць, што і так яны вельмі актыўна ўдзельнічалі ў працы Кангрэса.

**– Сёлета ў форума з'явіліся новыя партнёры?**

– Сапраўды, адбыліся значныя змены. Асноўным акадэмічным партнёрам у нас выступіў варшаўскі ўніверсітэт Collegium Civitas. Таксама да арганізацыі далучылася кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэту, Інстытут славістыкі Акадэміі навук Польшчы, шэраг грамадскіх арганізацый, у прыватнасці, Усходнееўрапейскі дэмакратычны цэнтр. Мяняецца і склад інфармацыйных партнёраў: сёлета да іх кола далучыліся "Радыё Рацыя", Беларуская служба "Польскага радыё" і тэлеканал "Белсат".

**– Якія тэмы стануць асноўнымі падчас працы форума?**

– У Кангрэсе плануецца ўдзел больш за 600 даследчыкаў па абсалютна розных дысцыплінах – ад эканомікі да лінгвістыкі, – і аб'яднаць іх пад агульнай тэмай практычна немагчыма. Хаця для гэтага года характэрны і пэўны тэматычны фокус, звязаны з дзвюма юбілейнымі датамі з гісторыі Беларусі. Першая – гэта камуністычная рэвалюцыя 1917 года і ўвогуле падзеі, звязаныя з рэвалюцыямі, гвалтам, войнамі ў беларускай гісторыі XX стагоддзя, з досведам камунізму і таго, як ён паўплываў на беларускае грамадства і культуру. Гэтая тэма будзе ўздымацца падчас працы некалькіх секцый, на пленарным пасяджэнні Кангрэса і ў некалькіх дыскусіях. Акрамя гэтага сёлета адзначаецца юбілей выдання скарынаўскай Бібліі ў 1517 годзе, і гэтай тэме таксама будзе прысвечаная праца некалькіх секцый і панэляў. Прычым не столькі ў кантэксце асобы Скарыны і яго дзейнасці, колькі ў сумежных тэмах. Будзе разглядацца праблема перакладаў на беларускую мову, у прыватнасці, перакладаў Бібліі, праблема пісьмовай і літаратурнай традыцыі Беларусі, феномен эпохі Адраджэння ў Вялікім Княстве Літоўскім, яе значэнне для гісторыі і сучаснай беларускай культуры і грамадства і г. д.


Радыё Свабода

Таксама будуць закранацца і актуальныя тэмы, у прыватнасці, пытанні бяспекі ў нашым рэгіёне, асабліва ў кантэксце вучэнняў "Захад-2017", бо гэтая падзея вельмі турбуе нашых суседзяў у Літве, Польшчы і Украіне. Будуць панэлі, прысвечаныя эканамічнаму развіццю Беларусі, інфармацыйнаму ўплыву Расіі на постсавецкай прасторы (у прыватнасці, у Беларусі), а таксама іншым аспектам сучаснага сацыяльна-палітычнага жыцця не толькі нашай краіны, але і рэгіёна.

**– Якое значэнне мае Кангрэс даследчыкаў Беларусі для рэгіёна?**

– Па-першае, ён з'яўляецца самай буйной рэгулярнай даследчай і акадэмічнай падзеяй года, якая дае магчымасць даследчыкам з розных дысцыплін камунікаваць паміж сабой, абменьвацца ідэямі. Дзякуючы Кангрэсу паўстаюць новыя даследчыя праекты і супольнасці, выходзяць новыя публікацыі. Шырокай публіцы становіцца вядомыя дасягненні асобных навукоўцаў, дзякуючы СМІ гэтыя веды патрапляюць за межы акадэмічнай супольнасці. Дзякуючы прэміі Кангрэса, якая надаецца за лепшыя публікацыі ў розных сацыяльных і гуманітарных дысцыплінах, становяцца вядомымі даследчыкі і іх навуковыя працы. У Кангрэсе бяруць удзел не толькі прадстаўнікі акадэмічных інстытуцый, але таксама і грамадзянскай супольнасці, якія абмяркоўваюць развіццё беларускага грамадства, палітыкі, культуры. Адбываецца міжсектаральная камунікацыя паміж акадэмічнай, экспертнай, грамадзянскай супольнасцямі, СМІ і іншымі зацікаўленымі бакамі.

**– Ці з'яўляецца Кангрэс паказчыкам цікаўнасці да Беларусі ў свеце і ці можна яе прасачыць дзякуючы форуму?**

– Даследаванні Беларусі ўжо скласціся як асобны сегмент міжнароднай даследчай дзейнасці.

На маю думку, Кангрэс выконвае значную і пазітыўную ролю ў кансалідацыі даследаванняў Беларусі на міжнародным узроўні. Кожны год трацiна ўдзельнікаў – гэта прадстаўнікі з іншых краін: Польшча, Украіна, Расія, Літва, ЗША, Нямеччына і г. д. Адбываецца важная камунікацыя, абмен вынікамі даследчай працы, павышаецца вядомасць беларускіх даследчыкаў за мяжой, а самі яны атрымліваюць новыя магчымасці для самарэалізацыі. Акрамя гэтага, міжнародны склад Кангрэсу значна пашырае магчымасці для параўнальных і рэгіянальных даследаванняў.

**Яўгенія Бурштын, ЕўраБеларусь**

ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА

IBKA

СЁМЫ МІЖНАРОДНЫ
КАНГРЭС
ДАСЛЕДЧЫКАЎ БЕЛАРУСІ
*веды для супольнай будучыні*
www.ICBS.lt
XV-XVII.X.MMXVII
15–17
верасня
2017

Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі заснаваны ў 2010 годзе прадстаўнікамі беларускай і літоўскай грамадскасці.

Кангрэс ініцыяваны для інтэграцыі даследчыкаў і экспертаў у палітычнай, сацыяльнай і гуманітарнай сферах, а таксама для спрыяння больш глыбокаму разуменню Беларусі ў акадэмічных і грамадскіх асяродках краін рэгіёну і свету.

Форум з'яўляецца месцам прэзентацыі вынікаў даследаванняў, а таксама вынікаў працы навукоўцаў і экспертаў на працягу года. Акрамя гэтага Кангрэс дзейнічае для абмеркавання перспектыўных даследчых і грамадскіх праектаў, абмену меркаваннямі і ідэямі, усталявання нефармальных кантактаў.

навіны

# ЧАМУ Ў ПОЛЬШЧЫ МОЖНА АДКРЫЦЬ БЕЛАРУСКАМОЎНУЮ ГРУПУ Ў САДКУ, А Ў БЕЛАРУСІ – НЕ?

У Варшаве з верасня пачнуць працаваць беларускія групы на базе Пачатковай школы № 395. Гэта стала магчымым дзякуючы намаганням беларусаў, якія сталa пражываюць у польскай сталіцы.

“Хачу падкрэсліць, што гэта не беларускамоўны клас, а міжшкольная група і міждашкольная група, – тлумачыць адна з бацькоў-ініцыятараў Марыя Луцэвіч-Напалкава. – Дзеткі з розных садкоў і школ будуць збірацца раз на тыдзень і вывучаць беларускую мову. Польская сістэма адукацыі прадугледжвае такія заняткі для нацыянальных меншасцяў”.

Для стварэння такіх груп дастаткова жадання і пісьмовага апавяшчэння дырэктара ўстановы, дзе вучыцца дзіця.

“Мы проста выкарысталі тыя інструменты, якія існуюць, – працягвае Марыя. – Распаўсюдзілі інфармацыю сярод бацькоў-беларусаў, ад якіх атрымалі вялікую падтрымку. Падтрымалі нас гарадскія ўлады і Міністэрства адукацыі Польшчы, дзе нам растлумачылі, што трэба зрабіць. Таксама яны дапамаглі знайсці добрую пляцоўку недалёка ад метро. Мы думаем, што гэта толькі пачатак, і ахвотных будзе ўсё больш”.

Цяпер дырэктар варшаўскай школы № 395 разглядае кандыдатуры настаўнікаў. Але дакладна, што выкладаць дзецям будзе носьбіт беларускай мовы – гэта адно з асноўных патрабаванняў бацькоў.

Ініцыятары ідэі падумваюць і пра стварэнне сапраўднага беларускамоўнага класа, а з цягам часу і школы. Усіх беларусаў Варшавы, якія жадаюць, каб іх дзеці ведалі родную мову, Марыя Луцэвіч-Напалкава запрашае на сустрэчу, якая адбудзецца 14 верасня а 18:00 у варшаўскай пачатковай школе № 395. З пытаннямі па арганізацыі такіх класаў у іншых гарадах Польшчы Марыя прапануе звязвацца з ёй праз e-mail: sadok.warszawa@gmail.com.

Некалькі тыдняў таму бацькі з Гомеля спрабавалі знайсці ў сваім горадзе беларускамоўную групу ў садку. На ўвесь абласны цэнтр такая была толькі адна, але для старэйшых дзяцей. Новыя групы адкрываць палічылі немэтазгодным, бо не знайшлі дастатковай колькасці ахвочых. Гісторыя скончылася нічым, бо ў садку правялі анкетаванне, па выніку якога за беларускамоўную групу прагаласавалі 4 чалавекі, 10 не вызначыліся, а 17 аддалі перавагу рускамоўнай адукацыі. Паводле афіцыйных дадзеных, цяпер у Беларусі на роднай мове навучаюцца 9,7% дзяцей. Для параўнання, ў 2010 годзе беларускамоўная адукацыя была ў 12,8% навучэнцаў.

**Паводле Іллі Маліноўскага, euroradio.fm**

# БЕЛАРУСКІ ДОМ У ВАРШАВЕ АДКРЫЎ “КАНСУЛЯТ”

Цэнтр кансультатыўнай дапамогі эмігрантам адкрыўся ў Беларускім Доме ў Варшаве.

Юрыдычныя пытанні, звязаныя з легалізацыяй побыту на тэрыторыі Польшчы, пошукам працы, а таксама з разгортваннем уласнай гаспадарчай дзейнасці, можна смела кіраваць у “Кансулят”. Як паведаміў дарадца Беларускага Дома ў Варшаве Аляксей Лявончык, кансультацыі праводзяцца абсалютна бясплатна.

Падчас першых дзён працы “Кансулята” выявіўся шэраг пытанняў, да якіх прыцягнута надзвычайная ўвага беларускіх эмігрантаў: атрыманне карты побыту на падставе польскіх каранёў і на падставе працы, а таксама іпатэка.

Бясплатную кансультацыю можна атрымаць у сядзібе Беларускага Дома ў Варшаве кожны панядзелак і чацвер з 10:00 да 13:00 гадзін.

**Паводле Эдуарда Жолуда, “Беларускае Радыё Рацыя”**

# МАСТАЦКАЯ РАДА ЎХВАЛІЛА ПРАЕКТ ПОМНІКА СКАРЫНУ ДЛЯ КІШЫНЁВА

Рэспубліканская экспертна-мастацкая рада па манументальна-дэкаратыўным мастацтве на чале з рэктарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхасём Баразной ухваліла эскізны праект скульптара Геніка Лойкі – помнік-бюст першадрукара Францішка Скарыны.

Помнік маюць усталяваць ужо сёлета ўвосень – у цэнтры Кішынёва, у скверы насупраць беларускай амбасады.

Спачатку на помнік (з улікам выкарыстанага матэрыялу) меркавалася патраціць не больш за 150 тысяч рублёў. Аднак у працэсе суму зменшылі ў 10 разоў.

Сам Генік Лойка ў размове са Свабодай сказаў, што першапачаткова замахнуўся на манументальны твор вышынёй у тры метры, аднак ягоны імпэт прыглушылі: “Я прынёс два эскізы – 1,25 і “паўтарачны”. Пасля абмеркавання пагадзіліся на “паўтары натуры”, але пры тым жа фінансаванні”.

Ідзе змаганне і за напісанне імя Скарыны. Згодна з умовамі конкурсу на помніку павінен значыцца Францыск, аўтар жа настойвае на Францішку.

Чаму помнік беларускаму першадрукару паедзе менавіта ў Кішынёў? Умовы конкурсу гэтага не тлумачаць. Аднак некаторыя навукоўцы ўсур’ёз разглядаюць версію, што Скарына мог быць пахаваны... на тэрыторыі сучаснай Малдовы. Доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры славянскіх літаратур Белдзяржуніверсітэта Іван Чарота ў нядаўнім інтэрв’ю казаў, што мае факты, якія выходзяць па-за традыцыйныя ўяўленні пра біяграфію “Георгія Скарыны”: “Гэта тэксты, пра іх я меў уяўленне яшчэ гадоў шэсць таму. Ёсць непасрэдны ўладальнік і захавальнік гэтых тэкстаў – пісьменнік, літаратар Юры Іваноў, які пражывае




ў Малдове. Ён прывозіў сюды гэтыя матэрыялы і паказваў малюнкі – дзве фігуры, злева нейкі чалавек з каронай, справа чалавек у шапцы і над ім надпіс: “Юрга Скарына Полацкі”. Мы разумеем, што гэта Георгі ці Юры. На малюнку паміж імі на падстаўцы ляжаць друкаваныя кнігі”, – казаў Чарота.

Паводле слоў навукоўца, “малюнкі суправаджаюцца тэкстам, напісаным шрыфтам, блізкім да кірыліцы”. У чарнавым перакладзе Юрыя Іванова гэты тэкст гучыць наступным чынам: “І быў Юрга Скарына Полацкі ў Вялікай Сучаі і зямлі Малдаўскай, бо запрасіла яго з Прагі Чэшскай добрая царыца малдаўская Алена Сербская, любая жонка вялікага гаспадара Пятра Стэфанавіча. Яна мела зарок надрукаваць кнігі-пісанні пра сваіх вялікіх продкаў... якіх прынізілі і на якіх навялі вялікую хлусню, няпраўду і крыўду праклятыя шалёныя туркі”.

У тэксце называецца канкрэтная дата, калі прыбыў у малдаўскія землі Юрга Скарына – 1520 год. І гаворыцца, што Скарына памёр 22 верасня 1572 года ў цяперашніх Рошканах. Захавальніку матэрыялаў магчымае месца спачыну Скарыны яшчэ ў 1970-я паказаў ягоны дзед. Са словаў навукоўца, там быў прастакутны камень-стол з вядомым знакам – месяцам, які закрывае сонца.

Паводле Чароты, цяпер ён чакае перакладаў усіх 11 аркушаў з тэкстамі, якія захоўваюцца ў Юрыя Іванова, каб зрабіць заключэнне. Пасля гэтага, ягонымі словамі, можна выпраўляцца ў экспедыцыю.

Генік Лойка кажа, што пасля адкрыццяў прафесара сустракаўся з ім, выслухаў ягоныя аргументы. Аднак веры не даў. Ставіць пад сумнеў высновы Івана Чароты і намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі, старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Алесь Суша: “На маё меркаванне інфармацыя вельмі сумнеўная. Невядомыя паперы, на невядомай мове, невядомага паходжання, невядомага часу стварэння. Падобна на сучасныя казкі пад даўніну. Да таго ж арыгінал належыць прыватнай асобе, нейкаму невядомаму пісьменніку, і трактуецца толькі ім самім. Гэтыя “ўнікальныя дакументы” ён без праблем возіць праз мяжу і адзін у свеце “ведае” пра месца пахавання Скарыны...”.

Раней Генік Лойка вырабіў узоры гліняных і металічных медальёнаў з серыі “Наша пяцісотгоднасць”. На тытуле – рысы твару Францішка Скарыны і юбілейная лічба 500.

**Ігар Карней, “Радыё Свабода”**

**кніга**

# ЛІКВІДАЦЫЯ ІМПЕРЫІ І НАЦЫЯ ЯК КАШТОЎНАСЦЬ

Рэвалюцыянер, рэдактар, міністр унутраных спраў, аўтар устаўных грамат БНР, заснавальнік партыі беларускіх эсэраў, эмігрант і ледзь не расстраляны палякамі палітвязень, доктар філасофіі і літаратурны крытык – усё гэта Тамаш Грыб, enfant terrible беларускай Прагі. Ягоны аднатомны збор твораў стаў першым выпускам новай кніжнай серыі "Спадчына: агледзіны" ЗБС "Бацькаўшчына".

Міжваеннае беларускае жыццё, як вядома, не мела выразнага цэнтра ці, больш дакладна, утварала некалькі "федэратыўных рэспублік", сярод якіх найбольшую ўвагу даследчыкаў займелі Вільня і Мінск. Прага Чэшская (разам з Коўнам, Дзвінскам, Варшавай) неяк абміналася, пакідалася на пасля і, можа, толькі дзякуючы "Ветразям Адысея" Уладзіміра Калесніка і "Споведзі" Ларысы Геніюш была прадстаўленая асобным кангламератам беларускасці. Са з'яўленнем кнігі выбранага Тамаша Грыба чэшская сталіца і тамтэйшыя нашы эмігранты 1920-х набліжаюцца да нас і робяцца крыху больш зразумелымі, хоць і па-ранейшаму фантастычна складанымі.

Насамрэч вельмі дзіўна, што дагэтуль адзін з самых цікавых даваенных публіцыстаў і філосафаў, ідэолагаў нацыянальнага руху, стваральнік Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, выдатны аратар і стыліст Тамаш Грыб не меў "сваёй" кнігі. Суадносна з ягоным уплывам і вагой у палітычным жыцці 1920–1930-х, выданне тэкстаў Грыба мусіла адбыцца яшчэ ў мінулым стагоддзі. Можна выказаць здагадку, што тут уплывала выразная радыкальна-левая пазіцыя дзеяча, адсутнасць мецэнатаў-нашчадкаў і сама ўспомненая вышэй прыцененасць беларускай Прагі.

Тэксты, якія ўрэшце сабраліся ў аднатомны збор твораў, пазіцыянуюць аднаго з аўтараў устаўных грамат БНР найперш цікавым тэарэтыкам, пачынальнікам беларускай сацыялагічнай навукі. Мабыць, некалі дачакаемся і асобных раздзелаў у айчынных падручніках па сацыялогіі, і спецыяльных дысертацыйных работ. Бо сам факт таго, што ў Празе беларусам была абароненая доктарская дысертацыя па псіхалагічнай антрапалогіі, ужо не можа пакідацца без увагі. Глухія згадкі пра магчымую распрацоўку сацыялагічных анкет для беларусаў Латвіі можна знайсці ва ўспамінах Сяргея Сахарава. Відавочна, варта шукаць і больш канкрэтныя дадзеныя, дакументальныя пацверджанні распрацовак Грыба, засесці ў замежныя архівы, перш за ўсё чэшскія.

*"Я працую над пытаньнем нацыянальнае тыпалёгіі, ці, йнакш кажучы – псыхалёгіі народаў. Канкрэтна – якая ёсьць псыхалёгія Беларускага народу? Чым характарызуецца ці адрозьніваецца беларус ад паляка, латыша, вялікаруса, ліцьвіна ды інш., у чым выяўляюцца характэрныя асаблівасьці самаістай яго індывідуальнасьці?"* – піша Грыб Сяргею Сахараву ў лісце ад 7 кастрычніка 1928 года, мімаходзь аддаючы ліцвінства літоўцам. Так развязваецца вузел: рэвалюцыянер ліквідуе імперыю і ўзводзіць нацыю ў каштоўнасць, ад нацыяналізму пераходзіць да вывучэння паняцця этнасу, ад этнасу – да этнапсіхалогіі, ад апошняй – да культурнай антрапалогіі, якая ў еўрапейскіх універсітэтах 1920-х вывучаецца вельмі актыўна.



Грыб выказвае сябе перакананым пазітывістам і прыхільнікам навуковага прагрэсу: *"Чалавек сваім розумам даб'ецца з часам абсалютнай веды, іначай і быць не можа... Я шукаю цяпер праўды аб'ектыўнай, універсальнай справядлівасці... Гэтая праўда, на мой пагляд, можа быць знойдзена толькі шляхам аб'ектыўнага доследу, аб'ектыўнага аналізу мнагаграннай душы чалавека..."* Нездарма гэтак бурліва ён рэагуе на паэму Уладзіміра Жылкі "Уяўленне", дзе, згодна з рамантычнай традыцыяй, ухваляецца інтуітыўнае веданне, выяўленне "невымоўнага". *"Ваша негатыўнае адношанне да розуму і хвала пачуццю мяне не тое, што зліць, а проста нават да шаленства даводзіць"*, – піша ён Жылку. Толькі розум, толькі дакладны аналіз і дослед, толькі эмпірычныя дадзеныя.

І гэта, па сутнасці, асноўная тэма ягоных перадсмяротных штудыяў – у нейкім сэнсе навуковы фінал ягонай грамадска-палітычнай дзейнасці.

Фінал, бо тое, да чаго прыходзіць Грыб у сваіх разважаннях пра беларускі нацыяналізм, гучыць як прысуд: мы, палітыкі, не ведаем свайго народа. У публіцыстыцы і аб'ёмным эпісталярыі Тамаша Грыба, уведзеным у кнігу "Выбранае", можна прасачыць, як змяняецца ягоная пазіцыя.

# ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ "ТАМАШ ГРЫБ. ВЫБРАНАЕ" ПРАЙШЛА Ў ГРОДНЕ З УДЗЕЛАМ УКЛАДАЛЬНІЦЫ ЗБОРНІКА НАТАЛЛІ ГАРДЗІЕНКА

Фундатарамі кнігі выступілі тры інстытуцыі: ЗБС "Бацькаўшчына", Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку і Беларускі дзяржаўны архіў і музей літаратуры і мастацтва ў Мінску.

*"Ніколі б не падумала, што буду ўкладаць кнігу пра Грыба,* – кажа Наталля Гардзіенка. – *Мая спецыялізацыя – паваенная эміграцыя. Гадоў шэсць таму мне трапілі ў рукі дакументы, датычныя міжваеннай беларускай Прагі. Я была здзіўленая: чаму мы так мала ведаем і выдаём на гэтую тэму? Гэта ж вельмі цікавы феномен у гісторыі нашага замежжа: і студэнцкі рух, і перыёдыка, і палітычная актыўнасць. Але апроч асобных публікацый, нічога няма..."*

Разам з даследчыкам Лявонам Юрэвічам у спадарыні Наталлі атрымалася адшукаць нават працу Тамаша Грыба, якую той абараняў на філасофскім факультэце Карлава ўніверсітэта ў Празе ў 1920-я. Гэта была надзвычай важная знаходка, бо сама праца тычыцца асэнсавання феномену нацыі з філасофскага пункту гледжання.

Большая частка друкаванай спадчыны Тамаша Грыба раскіданая ў выглядзе артыкулаў па міжваенных перыёдыках: "Родны край", "Іскры Скарыны", "Сялянская думка", "Грамадзянін" і інш. Ён пісаў на разнастайныя тэмы: пра Скарыну (што дае падставу лічыць яго адным з першых скарыназнаўцаў), палітыку, літаратуру, Заходнюю Беларусь і СССР, міжнародны сацыялістычны інтэрнацыянал і інш.

*"Мне здавалася, што Грыб – вядомая асоба ў нацыянальным руху,* – працягвае Наталля Гардзіенка. – *Адзін з заснавальнікаў партыі эсэраў, сябра Рады БНР... У 1990-х гадах яго імя пачало з'яўляцца ў друку, адпаведныя біяграмы знайшлі месца ў энцыклапедыях. Пры гэтым яго творчая спадчына так і засталася недаацэненай і недавывучанай".*

Паводле Наталлі Гардзіенка, выдаваць кнігу варта было не толькі каб апублікаваць усё вядомае пра Грыба. Па-першае, гэта немагчыма: ягоная спадчына дагэтуль раскіданая па розных краінах: Беларусь, Расія, Літва, Чэхія... Па-другое, ягоныя асноўныя тэксты трэба не захоўваць на кніжнай паліцы, але чытаць: яны не страцілі актуальнасці і па сённяшні дзень.

Будучы эсэрам, Тамаш Грыб не паддаўся падману бальшавікоў і не паверыў у "беларускі дом", што будуецца пад крылом Масквы. Для Беларусі ён бачыў трэці шлях, без апоры на Усход ці Захад. Нават да тактычнай супрацы з палякамі ці бальшавікамі, у якую была заангажаваная абсалютная большасць беларускага нацыянальнага актыву, Грыб ставіўся насцярожана.

Даследчыкам удалося знайсці вельмі цікавы ліст, які захоўваецца ў Нацыянальным архіве, дзе Грыб вядзе палеміку з сябрамі-сацыялістамі пра магчымасць супрацы з бальшавікамі і паслядоўна тлумачыць, што нельга пагаджацца на шчодрыя прапановы эсэрам ад бальшавікоў. Яшчэ больш прарочымі выглядаюць развагі Грыба наконт падабенства фашызму і камунізму, напісаныя яшчэ ў першай палове 1930-х.

Наогул, Тамаш Грыб быў "вечным апазіцыянерам" па складзе характару. З гэтай прычыны і меў складаныя стасункі з большасцю дзеячаў нацыянальнага руху. У прыватнасці, рэзка негатыўна ставіўся да Вацлава Ластоўскага, Янкі Станкевіча, беларускіх палітэмігрантаў у Празе ды інш. Пры гэтым Грыб любіў трыбуну і працяглыя выступы перад публікай.

Асабістым абставінам у жыцці Грыба прысвечаны асобны раздзел кнігі. Тут ёсць кавалак успамінаў Паўліны Мядзёлкі, ягонай грамадзянскай жонкі, якая выцягвала яго з турмаў. Тут жа – сведчанні Палуты Ба-

# У ТВОРАХ ТАМАША ГРЫБА

Шчырая перакананасць у перамозе беларускіх эсэраў змяняецца верай у беларускую беднату, якая здзейсніць сацыяльную рэвалюцыю і прыйдзе да Беларусі, незалежнай ад Масквы і Варшавы. Надзея на палітычную свядомасць і актыўнасць сялян трымаецца доўга. Пасля надзеі прыходзіць разуменне таго, што пакаленне першых радных БНР і першых палітыкаў з'яўляецца хутчэй перагноем для наступных генерацый, якія пачнуць вывучэнне беларусаў і адкажуць на пытанне, чаго, уласна, беларускі народ хоча для сябе. Урэшце, прыходзіць усведамленне, што і Прага не выратуе сітуацыю, бо й тыя маладзёны, якія прыходзяць у беларускую справу, далёкія ад Грыбавага ідэалу: *"Новае пакаленне... такое ж хворае і так сама мае дзве душы, як і старое. Заўтрашні дзень беларускага адраджэння мала чым будзе рожніцца ў сваім ідэйным змесце ад учарайшага і сёнешняга. Няма людзей! Няма і сырога нават матэрыялу, з якога б магла выкрысталізавацца і адшліфавацца духоўна сільная адзінка"*.

Тут жа, у лістах, Грыб дае вельмі вострыя характарыстыкі ковенскай Радзе БНР, Міколу Вяршыніну, Янку Станкевічу, пражскім беларусам. З ягоных сведчанняў ва ўсёй сваёй складанасці ўзнаўляецца нервовая і эмацыйная атмасфера беларускай эміграцыі, жорсткія ўнутраныя спрэчкі паміж пражскімі беларусамі, няўменне асобных дзеячаў мысліць стратэгічна і карыстацца спрыяльным момантам. Што да ацэнак вонкавай сітуацыі, то яна найлепш прадстаўленая ў лісце Грыба да мінскіх сябраў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р).

Гэты аб'ёмны (на трыццаць старонак кнігі) ліст выдатна паказвае і амплітуду Грыбавага тэмпераменту, і ягонае рытарычнае майстэрства, і абсалютна цвярозае разуменне сутнасці камуністаў і БССР. Той факт, што гэты ўнікальны дакумент захаваўся ў Нацыянальным архіве Беларусі ў выглядзе перакладу на рускую мову, сведчыць: камуністы таксама цікавіліся сутнасцю Грыба і дбайна вывучалі ягоныя погляды – як небяспечнага ворага.

У лісце Грыб наўпрост піша пра тое, што левы характар бальшавізму – гэта толькі шырма, фальшывае прыкрыццё для рэстаўрацыі вялікадзяржаўнай маскоўскай імперыі, то бок камуністы з'яўляюцца правай нацыяналістычнай рускай партыяй, якая вынішчыць усё нацыянальнае ў Беларусі. Піша, што насамрэч бальшавікі не маюць у народзе большасці – *"іначай былі б дапушчаныя свабодныя выбары"*. Што няма ніякага СССР, *"а ёсць "единая и неделимая" Расія"*. Мэта партыі эсэраў таксама падаецца абсалютна недвухсэнсоўна: *"Раўнапраўе ўсіх людзей і народаў ёсць асноўны фундамент нашага разумення федэралізму. Супраць гэтага стаіць уся Маскоўская вялікадзяржнаўная традыцыя, і нашай задачай з'яўляецца ліквідацыя гэтай традыцыі, разбурэнне Маскоўскай вялікадзяржнаўнасці"*. Словы Грыба гучаць надзённа і востра сёння, у наш час.

Цвяроза ацэньваючы кампартыю, Грыб тым не менш і ў 1924 годзе, перад мінскім з'ездам БПС-Р, калі пад ціскам бальшавікоў партыя Грыба была распушчаная, мысліць катэгорыямі 1920 года. Тады беларускія эсэры сапраўды мелі немалую вагу і некалькі дзясяткаў тысяч чалавек у сваіх шэрагах. Грыб гаворыць, што ніводзін нармальны сябра партыі на гэтую авантуру, самаліквідацыю БПС-Р, не пойдзе. Магчыма, гэта самападман, магчыма – няведанне ўзмоцненага рэжыму "рэвалюцыйнай законнасці", у якім жывуць сябры БПС-Р сярэдзіны 1920-х. Усе палітычныя дыскусіі кампартыя пачынае весці, прыклаўшы да скроні апанента рэвальвер, і паплечнікі Грыба вельмі добра адчуваюць холад гэтага жалеза.

Насамрэч, "Выбранае" Тамаша Грыба – вельмі трагічная кніга. У ёй бачны велізарны патэнцыял чалавека, які, па сутнасці, напоўніцу не раскрыўся. Тэмперамент праваднра партыі ў 20 тысяч чалавек быў вымушаны ўкладацца ў тэксты для малатыражных часопісаў, а не ў прамовы для "сэрцаў мільёнаў".

Магчыма, Беларусь і страціла палітыка, але атрымала філосафа, ідэолага нацыянальнай ідэі і бязлітаснага крытыка маскоўскай імперскай палітыкі. І сто гадоў таму напісаныя тэксты прымушаюць ставіць птушкі на палях і закладваць старонкі. А гэта, мабыць, найлепшае, што можа здарыцца з тэкстам.

**Ціхан Чарнякевіч, "Будзьма беларусамі!"**

**Публікацыя зроблена ў межах ініцыятывы "Грамадскі ўдзел", якая аб'ядноўвае розныя арганізацыі дзеля пашырэння грамадскай актыўнасці і развіцця грамадзянскай супольнасці.**



дуновай, якая вельмі хацела стаць яго жонкай і пісала ў савецкія інстытуцыі, каб тыя дапамаглі выцягнуць Грыба з эміграцыі ў СССР.

Вельмі цікава, што апошняя мела звычку падпісвацца як Палута Бадунова-Грыб, хоць ніякіх сведчанняў пра іх афіцыйны шлюб няма. З гэтай нагоды Мядзёлка апісвае такі эпізод: калі Грыб быў у польскай турме ў Вільні, яна папрасіла ў следчага пра спатканне, прадставіўшыся ягонай нявестай, той дазволіў.

Праз пэўны час з аналагічнай фармулёўкай на спатканне папрасілася... Палута Бадунова. Тады следчы ўжо не вытрымаў: *"Колькі ж нявестаў у Грыба?!"*. Бадуновай было адмоўлена. У выніку тая зладзіла Мядзёлцы скандал, але і надалей праз гады падпісвалася "Бадунова-Грыб".

Сам Грыб, відаць, лічыў сваёй жонкай усё ж Мядзёлку, пра што пісаў у лістах. Зрэшты, гэта не замінала яму сустракацца з іншымі пасіямі ў той жа Празе.

Памёр Тамаш Грыб у Празе ў 1938 годзе ад хваробы, крыху не дажыўшы да вялікага ліхалецця і кардынальных палітычных пераменаў у Еўропе і ўсім свеце. Сябры выдалі пасмяротны зборнік "Золак", у якім быў артыкул і аднаго з найвядомейшых рускіх эсэраў Чарнова.

Месца пахавання Грыба, які неаднойчы пісаў пры жыцці пра раскіданыя невядома дзе косці беларускіх герояў, невядомае. Паводле адной з версіяў, парэшткі Грыба былі спаленыя, а сцяна, куды была ўмураваная ўрна з попелам, не перажыла вайны.

Як лічыць Наталля Гардзіенка, спадчына Тамаша Грыба не вычэрпваецца адной кнігай, тым больш гэта пакуль яшчэ не цэльная біяграфія, а зборка сведчанняў, лістоў, артыкулаў і мемуараў. Тым не менш цяпер нашмат больш шансаў, што да ягонай асобы будуць звяртацца сучаснікі, а ідэі будуць жыць і служыць нацыі надалей.

**Алесь Кіркевіч, "Будзьма беларусамі!"**



**музыка**

## "Стары Ольса": НОВЫ АЛЬБОМ І ГАСТРОЛІ Ў ЗША

"Стары Ольса" запісалі новы альбом і гастралююць у ЗША.

"Вада, хмель і солад" – не проста новы альбом, гэта грунтоўная праца цягам апошніх некалькіх год. Воляй лёсу, розных сустрэчаў і знаходак збіраўся матэрыял для гэтага альбома, апрацоўваўся і выкрышталізоўваўся падчас канцэртаў. І ўрэшце запісаны ў студыі.

"Вада, хмель і солад" – спроба аднавіць дух старадаўніх застолляў: жартоўныя спевы, рэлігійныя, ваярскія, баладныя і, вядома ж, спевы пра пітво.

Беларуская прэзентацыя альбома адбудзецца 19 лістапада ў Мінску ў Палацы прафсаюзаў.

Квіткі можна набыць праз ticketpro.by, kvitki.by, а таксама ў касе Палаца прафсаюзаў.

Трэці амерыканскі гастрольны тур гурта будзе доўжыцца да 23 кастрычніка:

**Sept 09–10** – Minnesota Renaissance Festival.
**Sept 13** – Brooklin, NY, St Cyril of Turau Cathedral. Tickets.
**Sept 15** – Columbia, MD, Abiding Savior Lutheran Church.
**Sept 16–17** – Maryland Renaissance Festival.
**Sept 18** – Baltimore, MD.
**Sept 20** – Lehighton, PA, Ukranian Homestead.
**Sept 21** – Greenbelt, MD, New Deal Cafe.
**Sept 22** – Laurel, MD, Emmanuel United Methodist Church.
**Sept 23–24** – Maryland Renaissance Festival.
**Sept 26** – Washington DC, House Concert in Adelphi, MD.
**Sept 27** – Akron, OH, Empire Concert Club.
**Sept 29** – Oct 01 – Sioux City, IA, Riverssance Festival.
**Oct 3** – Chicago, IL, University of Chicago.
**Oct 5** – Urban, IL, University of Illinois.
**Oct 07–08** – Saint Louis, MO, St.Louis Renaissance Festival.
**Oct 13** – Ashland, OR, Oregon Shakespeare Festival.
**Oct 15** – Salem, OR, Chemeketa College.
**Oct 18** – Tacoma, WA.
**Oct 21** – Seattle, WA, Seattle Public Library.
**Oct 22** – Redding, CA (TBA).
**Oct 23** – San Francisco, CA, SF Public Library.

**навіны "Будзьма беларусамі!"**

## "Вогнепаклонніца" ад Іны Снарскай

Украінска-беларуская паэтка Іна Снарская прадставіла гарадзенцам зборнік "Вогнепаклонніца", які выйшаў у бібліятэчцы часопіса "Дзеяслоў". Свае вершы ды прозу ў цэнтры гарадскога жыцця Гародні паэтка чытала амаль дзве гадзіны – гледачы доўга не хацелі яе адпускаць. Вечар адбыўся ў рамках кампаніі "Будзьма беларусамі!" і акцыі "Пяцісотгоднасць".



"Я ўпершыню выступаю ў Гародні, – кажа Іна Снарская. – Яна мне нечым нагадвае Львоў. Гэта мая даўняя мара – выступіць на зямлі, дзе ўпершыню згадваецца прозвішча Снарскіх".

Выступ быў арганізаваны гарадзенскай філіяй Саюза беларускіх пісьменнікаў. Плануецца, што ў наступным годзе Іна Снарская прыедзе ў Гародню, каб паказаць свае фільмы, якія яна зрабіла як журналіст ва Украіне.

## Сустрэча з Настай Кудасавай

13 ліпеня паэтка Наста Кудасава завітала ў дзіцячы лагер "Папараць-кветка", што месціцца ў жывапісным куточку Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці.

Сустрэча сабрала поўную залу гледачоў – дзяцей усіх узростаў, ад шасці да чатырнаццаці гадоў. Наста Кудасава прэзентавала ім новую кнігу "Маё невымаўля", распавяла пра сябе і пра быццё сучаснай беларускай літаратуры. Знаёмства з паэткай выклікала ў маленькіх слухачоў шквал самых розных пытанняў – пра тое, як пішуцца вершы і што на гэта натхняе, пра захапленне беларускай мовай і беларускай гісторыяй. Некаторыя нават прызналіся, што таксама пішуць вершы і жадаюць вырасці паэтамі.

Наста Кудасава пазнаёміла прысутных з кампаніяй "500-годнасць" і з гісторыяй беларускага кнігадрукавання. Дзеці з цікаўнасцю прымалі ўдзел у імпрэзе – адказвалі на пытанні, спаборнічалі ў конкурсах, а напрыканцы чыталі на памяць вершы беларускіх класікаў. Найбольш актыўныя ўдзельнікі атрымалі памятныя падарункі ад кампаніі "Будзьма беларусамі!".

**Болей навінаў чытайце на budzma.by**

# Стартавала кампанія падтрымкі выдання кнігі "Тэорыі літаратуры XX ст."

"Тэорыі літаратуры XX ст." – грунтоўнае акадэмічнае выданне, якое змяшчае найбольш поўнае апісанне ўсяго, што адбывалася ў сусветнай гуманістыцы за апошнюю сотню гадоў. Анна Бужыньска і Міхал Павел Маркоўскі (бясспрэчныя аўтарытэты польскага літаратуразнаўства) апісваюць найважнейшыя тэорыі літаратуры мінулага стагоддзя ад псіхааналізу да посткаланіялізму. Багацце зместу і кампетэнтны аналіз ідуць у пары з яснасцю і празрыстасцю расповеду.

Кніга будзе карысная ўсім студэнтам гуманітарных спецыяльнасцей. Выданне шырока закранае філасофію, мовазнаўства, культуралогію, з'яўляецца зборнікам ідэяў, без ведання якіх сёння складана ўявіць сабе адукаванага чалавека. Такога выдання яшчэ не было. Кніга была абсалютнай навінкай на польскім рынку і зробіць рэвалюцыю ў беларускай гуманітарыстыцы. Падрабязней пра выданне можна пачытаць тут www.talaka.by/projects/2117/overview. Задача – не проста надрукаваць, але і распаўсюдзіць па бібліятэках і гуманітарных асяродках Беларусі, каб доступ да гэтай кнігі атрымала як мага больш студэнтаў і выкладчыкаў.

Над праектам працавалі перакладчыкі Марына Шода, Святлана Рогач, Марыя Пушкіна, Таццяна Нядбай. Рэдактар кнігі – Лявон Баршчэўскі. Аўтарка прадмовы – Ганна Бутырчык, кандыдат філалагічных навук, загадчыца кафедры замежнай літаратуры філалагічнага факультэта БДУ. Каардынатарка праекта – Таццяна Нядбай (скончыла філалагічны факультэт БДУ і аспірантуру ў Любліне, навуковы кіраўнік – прафесар Сяргей Кавалёў).

Кніга будзе выдадзеная ў цвёрдай вокладцы ў выдавецтве "Медысонт".

НАЙВАЖНЕЙШЫЯ
ТЭОРЫІ
ЛІТАРАТУРЫ
Ў АДНЫМ ТОМЕ!




## Беларускі каляндар памятных дат на жнівень 2017 года

1 верасня – 90 гадоў таму, у 1927-м, нарадзіўся Алесь Адамовіч, пісьменнік.

4 верасня – 25 гаоду таму, у 1992-м, памёр Сяргей Хмара (сапр. Сіняк), пісьменнік, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ў Канадзе.

4 верасня – 20 гадоў таму, у 1997-м, памёр Міхась Раманюк, мастак, этнограф.

5 верасня – 100 гадоў таму, у 1917-м, нарадзіўся Язэп Сажыч, дзеяч эміграцыі ў ЗША, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (1982–1997).

5 верасня – 80 гадоў таму, у 1937-м, памёр Анатоль Дзяркач (сапр. Анатоль Зіміёнка), паэт.

7 верасня – 185 гадоў таму, у 1832-м, нарадзіўся Людвік Нарбут, адзін з кіраўнікоў вызваленчага паўстання 1863–1864 гг.

8 верасня – Дзень беларускай вайсковай славы. У гэты дзень у 1514 годзе адбылася бітва пад Оршай, у якой войскі Вялікага княства Літоўскага на чале з Канстанцінам Астрожскім нанеслі паражэнне маскоўскаму войску.

10 верасня – 80 гадоў таму, у 1937-м, памёр Язэп Мамонька, палітычны дзеяч.

14 верасня – 80 гадоў таму, у 1937-м, памёр Сяргей Астрэйка, паэт.

15 верасня – 20 гадоў таму, у 1997-м, памёр Рудольф Пастухоў, пісьменнік.

17 верасня – 105 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Максім Танк (сапр. Яўген Скурко), паэт, акадэмік.

17 верасня – 95 гадоў таму, у 1922-м, нарадзіўся Уладзімір Калеснік, літаратуразнавец, празаік.

18 верасня – 25 гадоў таму, у 1992-м, памёр Ян Скрыган, пісьменнік.

19 верасня – 220 гадоў таму, у 1797-м, нарадзіўся Януар Сухадольскі, жывапісец, удзельнік паўстання 1830–1831 гг.

22 верасня – 100 гадоў таму, у 1917-м, памёр Ігнат Буйніцкі, акцёр, рэжысёр, пачынальнік беларускага нацыянальнага тэатра.

23 верасня – 115 гадоў таму, у 1902-м, памёр Эдмунд Вярыга, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

24 верасня – 115 гадоў таму, у 1902-м, нарадзіўся Аляксандр Махноўскі, педагог, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

26 верасня – 15 гадоў таму, у 2002-м, памёр Аляксандр Шыдлоўскі, кампазітар.

27 верасня – 125 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіўся Сяргей Баран, грамадска-культурны дзеяч, педагог.

27 верасня – 45 гадоў таму, у 1972-м, памёр Сымон Кандыбовіч, грамадска-палітычны дзеяч.

28 верасня – 80 гадоў таму, у 1937-м, памёр Уладзіслаў Галубок, пісьменнік, рэжысёр, акцёр, мастак.

29 верасня – 35 гадоў таму, у 1982-м, памёр Дзмітрый Сямёнаў, літаратар, грамадскі дзеяч эміграцыі ў ЗША.

30 верасня – 125 гадоў таму, у 1892-м, нарадзілася Зоська Верас (сапр. Людвіка Сівіцкая, па мужу Войцікава), пісьменніца.

**Беларусы ў свеце**
No 8 (183), жнівень 2017
Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі. Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27